# ПЕРШАЕ ПАСЛАННЕ ДА ТЭСАЛАНІКІЙЦАЎ

## 1 (1-10)

1Павел, Сілуан і Цімафей да Касцёла Тэсаланікійцаў у Богу Айцу і Пану,
Езусе Хрысце: ласка вам і спакой.

2За ўсіх вас заўсёды дзякуем Богу, згадваючы вас у малітвах нашых,
3няспынна памятаючы пра вашую справу веры і працу любові, і пра цярплівую
надзею на Пана нашага Езуса Хрыста перад Богам і Айцом нашым, 4ведаючы,
умілаваныя Богам браты, пра выбранне вашае. 5Бо нашае Евангелле не было да
вас толькі ў слове, але і ў сіле, і ў Духу Святым, і з вялікім перакананнем. Вы
ведаеце, якімі мы былі для вас, будучы з вамі.

6Вы пачалі наследаваць нас і Пана, прыняўшы слова ў вялікім уціску з
радасцю Духа Святога, 7так што сталіся вы ўзорам для ўсіх веруючых у
Македоніі і Ахаі. 8Дзякуючы вам прагучала слова Пана не толькі ў Македоніі і
Ахаі, але і ў кожным месцы распаўсюджвалася вашая вера ў Бога, так што нам
няма патрэбы нешта казаць. 9Яны самі пра нас сведчаць, які быў наш прыход
да вас і як вы, пакінуўшы ідалаў, звярнуліся да Бога, каб служыць жывому і
праўдзіваму Богу 10і чакаць з нябёсаў Сына Ягонага, якога Ён уваскрасіў з
мёртвых, – Езуса, які выбаўляе нас ад надыходзячага гневу.

## 2 (1-20)

1Вы самі ведаеце, браты, што наш прыход да вас не быў дарэмны. 2Хоць
раней у Філіпах, як ведаеце, мы зазналі цярпенні і знявагі, аднак адважыліся ў
Богу нашым абвяшчаць вам Евангелле Божае ў вялікім змаганні. 3Бо навучанне
нашае не з памылкі, нячыстасці ці падману, 4але як выпрабаваныя Богам дзеля
даручэння [нам] Евангелля, мы абвяшчаем так, каб дагадзіць не людзям, але
Богу, які выпрабоўвае сэрцы нашыя. 5Бо, як ведаеце, мы ніколі не былі ні
ліслівымі ў словах, ні карыслівымі, Бог сведка. 6Мы не шукалі славы ні ў
людзей, ні ў вас, ні ў іншых. 7Як Апосталы Хрыста мы маглі б быць цяжарам
для вас, але мы сталіся немаўлятамі сярод вас і, як карміліца апякуецца дзецьмі
сваімі, 8так і мы з чуласці да вас пажадалі перадаць вам не толькі Божае
Евангелле, але і жыццё сваё, таму што вы сталі для нас умілаванымі. 9Вы
памятаеце, браты, працу і намаганні нашыя, калі, працуючы ўначы і ўдзень, каб
не абцяжарваць нікога з вас, мы абвяшчалі вам Евангелле Божае. 10Вы сведкі і
Бог, як свята, справядліва і беззаганна мы паводзілі сябе ў дачыненні да вас,
веруючых. 11Вы ж ведаеце, што кожнага з вас, як бацька дзяцей сваіх, 12мы
заахвочвалі, падбадзёрвалі і пераконвалі пастулаць годна Бога, які кліча вас да
свайго валадарства і славы.

13Таму мы таксама няспынна дзякуем Богу, што вы, прыняўшы ад нас
пачутае Божае слова, прынялі яго не як чалавечае слова, але, што ёсць на самай
справе, як Божае слова, якое і дзейнічае ў вас, веруючых. 14Браты, вы сталі
пераймальнікамі Касцёлаў Божых у Юдэі ў Езусе Хрысце, бо і вы нацярпеліся
ад землякоў вашых, як і яны ад юдэяў, 15якія і Пана Езуса забілі, і пракракаў, і
нас пераследавалі, і Богу не падабаюцца, і ўсім людзям працівяцца. 16Якія
забараняюць нам прамаўляць да язычнікаў, каб тыя не былі збаўлены. І так

увесь час дапаўняюць меру грахоў сваіх. Але прыйшоў нарэшце гнеў Божы на
іх.
[17]Мы ж, браты, разлучаныя з вамі на кароткі час фізічна, а не сэрцам,
вельмі моцна жадаем пабачыцца з вамі. [18]Таму неаднойчы хацелі пайсці да вас,
асабліва я, Павел, але перашкодзіў нам сатана. [19]Бо хто наша надзея, або
радасць, або вянок хвалы? Ці ж не вы перад Панам нашым Езусам у час
прыйсця Ягонага? [20]Вы – нашая хвала і радасць.

## 3 (1-13)

[1]Паколькі мы не маглі далей вытрымаць, то захацелі самі застацца ў
Атэнах [2]і паслалі да вас Цімафея, брата нашага і супрацоўніка Бога ў
[абвяшчэнні] Евангелля Хрыстовага дзеля ўмацавання вашага і падтрымання
веры вашай, [3]каб ніхто не зняверыўся сярод гэтага ўціску. Вы ж самі ведаеце,
што мы на гэта прызначаны. [4]Калі былі ў вас, мы ўжо казалі вам, што павінны
будзем цярпець уціск. І вы ведаеце, што так і сталася. [5]Таму і я ўжо не мог
далей стрымацца і паслаў даведацца пра веру вашую, ці не зводзіць вас
спакушальнік і ці не дарэмнай была нашая праца.
[6]Цяпер прыбыў ад вас Цімафей і прынёс добрыя весткі пра вашую веру і
любоў, і што вы добра ўсцяж успамінаеце пра нас, жадаючы пабачыцца з намі,
як і мы з вамі. [7]Ва ўсёй нядолі і ўціску нашым вашая вера, браты,
падтрымлівала нас. [8]Бо цяпер мы жывём, калі вы трываеце ў Пану. [9]Як жа
можам аддзячыць Богу за ўсю радасць, якую маем за вас перад Богам нашым,
[10]калі ўначы і ўдзень горача молімся, каб убачыць вас і дапоўніць тое, чаго не
хапае веры вашай?
[11]Сам Бог і Айцец наш, і Пан наш Езус няхай скіруе да вас шлях наш. [12]А
Пан няхай памножыць вас і перапоўніць любоўю адзін да аднаго і да ўсіх, якую
і мы маем да вас, [13]каб умацаваць сэрцы вашыя беззаганнымі ў святасці перад
Богам і Айцом нашым у час прыйсця Пана нашага, Езуса, з усімі Ягонымі
святымі.

## 4 (1-18)

[1]Урэшце, браты, просім вас і заклікаем у Пану Езусе, каб вы, прыняўшы ад
нас тое, як трэба вам сябе паводзіць і дагаджаць Богу, як вы і паводзіце сябе,
каб больш у гэтым узрасталі. [2]Вы ведаеце, якія мы далі вам наказы ад Пана
Езуса. [3]Бо воля Божая – гэта асвячэнне вашае, каб вы асцерагаліся распусты,
[4]каб кожны з вас умеў утрымліваць сваё цела ў святасці і пашане, [5]а не ў
пажадлівым захапленні, як язычнікі, што не ведаюць Бога. [6]Няхай ніхто не
крыўдзіць і не выкарыстоўвае брата свайго ў гэтай справе, бо Пан – мсціўца за
ўсё гэта, як мы сказалі вам раней і засведчылі. [7]Бог паклікаў нас не да
нячыстасці, але да святасці. [8]Таму той, хто пагарджае гэтым, пагарджае не
чалавекам, але Богам, які і дае вам свайго Духа Святога.
[9]Няма патрэбы пісаць вам пра братнюю любоў, бо вы самі навучаны Богам
любіць адзін аднаго [10]і робіце так у дачыненні да ўсіх братоў ва ўсёй Македоніі.
Заахвочваем вас, браты: узрастайце ў гэтым яшчэ больш, [11]імкніцеся жыць у
спакоі, выконвайце свае абавязкі і працуйце ўласнымі рукамі, як мы наказалі

вам, [12]каб вы належна паводзілі сябе адносна тых, якія жывуць звонку, і каб ні ў чым не мелі патрэбы.

[13]Мы не хочам, браты, пакідаць вас у няведанні пра памерлых, каб не тужылі вы, як іншыя, хто не мае надзеі. [14]Калі мы верым, што Езус памёр і ўваскрос, то разам з Ім Бог прывядзе [да жыцця] і тых, хто памёр у Езусе. [15]Гэта кажам вам у слове Пана, што мы, жывыя, пакінутыя да прыйсця Пана, не апярэдзім тых, якія памерлі. [16]Бо сам Пан на заклік і на голас арханёла і трубы Божай сыдзе з неба, і памерлыя ў Хрысце ўваскрэснуць першымі. [17]Пасля мы, пакінутыя жывымі, будзем падхоплены на аблоках разам з імі насустрач Пану ў паветра, і гэтак назаўсёды будзем з Панам. [18]Таму заахвочвайце адзін аднаго гэтымі словамі.

## 5 (1-28)

[1]Пра часы і пэўную пару няма патрэбы пісаць вам, браты, [2]бо вы самі дакладна ведаеце, што дзень Пана прыйдзе, як злодзей уначы. [3]Калі будуць гаварыць: «Спакой і бяспека», тады пагібель неспадзяваная сустрэне іх, быццам пакуты парадзіху, і яны не ўцякуць. [4]Вы ж, браты, не ў цемры, каб гэты дзень застаў вас, як злодзей. [5]Вы ўсе сыны святла і сыны дня. Мы не належым ні да ночы, ні да цемры. [6]Дык не будзем жа спаць, як астатнія, але чувайма і будзьма цвярозымі.

[7]Тыя, што спяць, ноччу спяць, і тыя, што п’юць, ноччу п’яныя. [8]Мы ж, якія належым дню, будзьма цвярозымі, *адзеўшы панцыр* веры і любові, і як *шлем* – надзею *збаўлення*. [9]Таму што Бог прызначыў нас не для гневу, але для атрымання збаўлення праз нашага Пана Езуса Хрыста, [10]які памёр за нас, каб мы, ці чуваем, ці спім, жылі разам з Ім. [11]Таму заахвочвайце сябе ўзаемна і настаўляйце адзін аднаго, як вы і робіце.

[12]Просім вас, браты, паважаць тых, якія працуюць сярод вас і кіруюць вамі ў Пану ды навучаюць вас. [13]Любіце іх больш дзеля працы іхняй. Жывіце ў згодзе між сабою. [14]Просім вас, браты: настаўляйце свавольных, суцяшайце маладушных, падтрымлівайце слабых, будзьце доўгацярплівымі да ўсіх. [15]Глядзіце, нікому злом за зло не адплачвайце, але рабіце заўсёды дабро адзін аднаму і ўсім. [16]Заўсёды радуйцеся, [17]няспынна маліцеся. [18]За ўсё дзякуйце, бо такая адносна вас воля Божая ў Езусе Хрысце. [19]Духа не гасіце, [20]прароцтвамі не пагарджайце. [21]Усё правярайце, трымайцеся добрага. [22]Устрымлівайцеся ад усялякага зла.

[23]Сам Бог спакою няхай асвяціць вас цалкам, няхай увесь дух ваш, і душа, і цела захаваюцца беззаганнымі на прыйсце Пана нашага Езуса Хрыста. [24]Верны той, хто вас кліча, які і здзейсніць гэта.

[25]Браты, маліцеся за нас.

[26]Прывітайце ўсіх братоў святым пацалункам. [27]Прашу вас у Пану, каб гэтае пасланне было прачытана ўсім братам.

[28]Ласка Пана нашага Езуса Хрыста з вамі.

---